Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 24 чэрвеня 1933.

№ 13.

Год 1-шы

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

## Маладая зьмена.

І сёлета, як кожную вясну, з муроў беларускіх гімназіяў у Заходняй Беларусі выходзіць жменька беларускіх матурыстаў— будучых інтэлігентаў і грамадзкіх дзеячоў, узгадаваных у роднай школе, сьведамых сваей нацыянальнай прыналежнасьці і абавязку служэньня свайму народу.

Лічба іх — нясумерна малая, раўнуючы да лічбы беларускага насяленьня пад Польшчай: тут жа на два з гакам мільёны беларусаў мы маем ужо толькі дзьве беларускія гімназіі (і то не самастойныя!), — пад той час, як, прыкладам, у Латвіі на сто тысяч душ беларусаў існуюць дзьве гімназіі ды вучыцельскія курсы вышэйшага тыпу. І калі б да нашых матурыстаў у Вільні і Навагрудку дадаць яшчэ пэўную лічбу беларусаў, якія, канчаючы польскія гімназіі, усё-ж захавалі сваю нацыянальную душу, — дык і тады выйдзе, што ў маленькай частцы Беларусі, якая апынулася пад Латвіяй, прырост беларускае нацыянальнае інтэлігенцыі ня меншы, чым у Заходняй Беларусі, а мо' і больш.

Трагічнае гэта зьявішча, і тым вялікшае значэньне для нашае справы мае ўзгадаваньне кожнае новае беларускае інтэлігентнае адзінкі, і тым больш абавязкаў ляжыць на тэй „новай зьмене", якая цяпер выходзіць з мурoў гімназіяў — у жыцьцё.

А першая задача, якая стаіць перад ёй, гэта — змаганьне за беларускую культуру, здабываньне беларускае школы, без якое мы ня будзем мець уласнае інтэлігенцыі, а кіраўнічае мейсца ў кіраваньні жыцьцём нашага краю займаць будзе інтэлігенцыя нацыянальна нам чужая, каторая дзеля разьвіцьця беларускае культуры нічога ня зробіць, бо-ж і ня можа зрабіць, хоць-бы навет хацела: культуру народ можа тварыць толькі сам для сябе.

Вось чаму — асабліва ў сучасны пэрыад палітычнае і социяльнае стабілізацыі і зацішша ў Польшчы — ўсе нашыя сілы мусяць быць скіраваны на культурны фронт. Вось чаму на гэты фронт заклікаем мы і нашу маладую зьмену, якая выходзе із школы — ў жыцьцё.

Памятайце вы, маладыя: палітычных барацьбітаў родзіць мамэнт; культурнікаў — даўгая, цяжкая праца доўгіх гадоў. І выкарыстывайце вашыя сьвежыя сілы на тое, што мае найвялікшую вагу і для сучаснасьці, і—дзеля будучыні.

## Урачыстасьць у памяць Івана Луцкевіча.

У нядзелю, 18-га чэрвеня, у Беларускім Музэі ім. Івана Луцкевіча ў Вільні—з ініцыятывы Музэйнае Рады — адбылася ўрачыстасьць адкрыцьця бюсту Тварца Музэю. Бюст Івана Луцкевіча, адліты ў гіпсе, быў зроблены выдатным віленскім скульптарам Рафалам Яхімовічам, які ўлажыў у гэты твор многа ахвярнае працы.

У цесным памяшчэньні Музэю сабралася поўна запрошаных гасьцей, прадстаўнікоў розных грамадзкіх арганізацыяў і ўстаноў, студэнцкае моладзі, нячысьленага яшчэ беларускага артыстычнага сьвету, найстарэйшых супрацоўнікаў і прыяцеляў Івана Луцкевіча—выключна спасярод беларускага грамадзянства розных кірункаў (ведама, апрача Хадэцыі). Да сабраных прамовіў з даручэньня Музэйнае Рады сябра яе гр. Ул. Самойла, які і адкрыў бюст Івана Луцкевіча, дагэтуль закрыты. Падаем прамову гр. Самойлы поўнасьцю:

„Іван Іванавіч Луцкевіч, якога сьветлую і ўдзячную памяць сьвяткуем мы ў гэты мамэнт, адсланяючы яго, нажаль, толькі вельмі далёкае ад жывога арыгіналу скульптурнае адбіцьцё, ёсьць закладчыкам дый блізу адзіным тварцом таго збору скарбаў нашае мінуўшчыны, якому мы маем магчымасьць дзівіцца цяпер.

„Іван Луцкевіч, як ведаюць усе памятаючыя яго людзі, быў чалавек зусім асаблівы. Карыстаючыся трафным словам расейскага поэты, можна сказаць, што ён працаваў перад намі ў сваім жыцьці, „как безза-

конная комета — в кругу расчисленных светил". І запраўды-ж: яго жыцьцёвая орбіта — нейкая іншая, рожнячаяся ад нашых.

„І толькі цяпер мы разумеем, чаму. Гэта — таму, што яго асабістае жыцьцё, яго жыцьцёвы шлях былі толькі як быццам часткай, адрэзкам непамерна вялікшага зорнага шляху народу.

„І толькі гэта дало яму такую лёгкую і бясспрэчную для яго прыродную веду-інтуіцыю ўсяго вялікага зорнага шляху беларускага народу, ня толькі яго мінуўшчыны і сучаснасьці, але і — будучыны.

„Вось чаму Іван Луцкевіч, захапляючыся мінуўшчынай — гісторыяй, этнографіяй, археолёгіяй роднага краю і народу, творча ажыўляў яго душу ў цяпершчыне і — для будучага вечнага жыцьця. Ен адзін, ён — першы — пазнаў суцэльнасьць і непадзельнасьць у часе зорнай орбіты свайго народу.

„Запраўды-ж, былі і да Івана Луцкевіча зьбіральнікі і дасьледчыкі так-званых „памятнікаў народнага творства", гісторыкі, дасьледчыкі, навет ускрасіцелі мінулага жыцьця народу. Але для іх усіх гэтыя „памятнікі" былі — у лепшым выпадку — толькі сьвінтаром, толькі маўзолеем над памершым беларускім народам, — толькі магіламі мінуўшчыны.

Іван Луцкевіч першы пачуў і зразумеў, што тое, што для гэтых археолёгаў і этнографаў зьяўляецца „цікаўнымі забыткамі мінуўшчыны", сухой колекцыяй рэштак памершага жыцьця, тое для народу, для яго прыспанае, але няўміраючае душы ёсьць жывым духоўным асяродзьдзем, жывой атмосфэрай — паветрам, якім жыве і дыхае народ..,

„І вось чаму для Івана Луцкевіча ўсе гэтыя памяткі мінуўшчыны былі ня толькі рэшткамі адгучаўшага жыцьця народу, але і жывым залогам яго несьмяротнае будучыны.

„І вось чаму зьбіраў ён гэтыя рэшткі, абрыўкі, памяткі, забыткі былога жыцьця і творства народнага ня толькі з навуковай цікаўнасьцю вучонага археолёга, але і з запраўдным рэлігійным піэтэтам да жывое несьмяротнае душы народу, гэтага найвялікшага адбіцьця вобразу і падобія Божага на зямлі.

„І толькі цяпер мы разумеем, што, зьбіраючы гэтыя абрыўкі мінуўшчыны, ён запраўды зьбіраў расьцярушаную ў часе і прасторы душу беларускага народу, заклікаючы і падрыхтоўваючы яе да новага жыцьця.

„І ў гэтым усім Іван Луцкевіч — першы бясспорна і бясспрэчна. Гэтай яго думкай жывем мы ўсе, жыве ўвесь Беларускі Народ. Таму мы, сабраўшыся тут адсьвяжыць яго вечна жывы і сьветлы воблік у сваей памяці перад яго мёртвым адбіцьцём, з вялікай і ўдзячнай пашанай пахіляем перад Ім свае галовы.

„Як жыцьцё яго было як-быццам адрэзкам вялікага несьмяротнага шляху нашага народу, так сама і гэты Музэй Яго імя, гэты Дом Івана Луцкевіча вырастае на нашых вачох у вялікі гмах беларускага народу, вольны, сьветлы і вечны зорны шлях якога Іван Луцкевіч убачыў першы — тады, калі запраўды ж ніводнае зоркі ня было на цёмным небе над беларускім народам...

„І таму, пакуль жывы наш народ, памяць аб Табе, Іване, не памрэ!"

Пасьля гэтае прамовы, выслуханае сабраўшыміся ў глыбокім настрою, быў прачытаны верш нашага выдатнага песьняра М. Машары, прысланы спэцыяльна па гэту ўрачыстасьць (сам поэта ня мог прыехаць, бо адбывае вайсковы збор). Вось гэты верш:

### Сьветлай памяці Ів. Луцкевіча.

Іван, Іван!... Сяйбіт наш слаўны!
Яна прачнулася — жыве!
Зярняты сеяў Ты ня дарма, —
Ня марны мукі ўсе Твае.

Зярняты дум Тваіх і дзеяў,
Што так ахвярна сеяў Ты,
Сягоньня пышна зарунелі
І несьмяротным, і жывым.

Хоць там далёка ў Закапаным
Сумуе Твой магільны крыж,
Дзе Ты, наш слаўны і каханы,
Адзін запомнены ляжыш, —

Прывет Табе! Прывет — Краіны,
Ужо прачнуўшайся — жывой,
Ад вёсак, ніў і даляў сініх,
Ад ўсіх разбуджаных Табой.

Я знаю, Ты там тужыш, тужыш
Між дзікіх гор чужой зямлі,
Як сонца чырваньню і ружам
Задьве магілак камяні.

І сьніцца край усьцяж прыгожы —
Гэнь там, туды — за гор граніт, —
Дзе столькі вытаптаў дзрожак
Ты, вартаўнічы і сяйбіт.

— — — — — — — — — — —

Іван, Іван, Сяйбіт Вялікі,
Прынёс Табе паклон я свой!
Адзін я з тых, якіх Ты клікаў,
Адзін з разбуджаных Табой.

Ля абраза Твайго з пашанай
Стаю ў музэю Тваім тут.
Наш гэта скарб, Табой сабраны, —
Сьляды і славы, і пакут.

Разьбіў Ты ўпорна і трывала
Абраз магутнасьці Яе,
І мукай творчай сумавала
Твая душа: ці аджыве? —

Спакойны будзь, о, Дух Вялікі!
Ня згасім мы Твой творчы зьніч.
Ня дарам Ты будзіў і клікаў:
Яна жыве — і будзе жыць!

Таболы, 1933 г.

Па скончэньні ўрачыстасьці госьці, сярод якіх некаторыя ніколі йшчэ ня бачыл Музэю, з вялікім зацікаўленьнем аглядал вечна жывую спадчыну па Іване Луцкевічу

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Нашы матурысты.** З агульнае лічбы 14 здаваўшых экзамен на матуру вучняў Беларускай Філіі Дзяржаўнае Гімназіі ім. Ю. Словацкага ў Вільні атрымалі матуру 11, а паіменна: Жэдзік, Забельская, Канцэлярчык, Марціновічанка, Мілючанка, Насекайла, Стракоўская, Сухая, Урбановіч, Фёдараў, Шавелянка. З пяцёх экстэрнаў здала матуральны экзамен толькі адна Пазьнячанка.

**„Летапіс ТБШ“.** Таварыства Беларускае Школы, якое адыграла ўжо і далей адыгрывае вялікую ролю ў шырэньні нацыянальнае сьвядомасьці і роднае прасьветы ў беларускіх вёсках, усё больш і больш вызваляецца ад тых палітычных чыньнікаў, якія — карыстаючы з разгрому „Грамады“ — стараліся апанаваць ТБШ. Доказам гэтага ёсьць першы маёвы нумар „Летапісу ТБШ“, культурна грамадзкага і літэратурнага месячніка, які запраўды праводзіць думку аб культурнай працы, не падпарадкаванай нейкім закулісным палітычным „махерам“.

„Летапіс“ і сваім зьместам, і вонкавым выглядам робіць вельмі добрае ўражаньне. Асабліва цэнныя інфармацыі аб працы на мясцох гурткоў ТБШ, якая выяўляецца ў ладжаньні бібліатэк-чытальняў, арганізацыі народных дамоў, спэктакляў, лекцыяў, курсаў для дарослых і г. д. Паміж іншым, у некаторых гуртках узьнімаецца думка аб краязнаўчай працы, пачаткам якое былі-бы экскурсіі ў Вільню.

Сумнае зьявішча прадстаўляюць толькі тыя перашкоды, якія стаўляюцца гурткам у іх працы з боку дзяржаўнае адміністрацы ў некаторых старостввх і цэлых ваяводзтвах. „Летапіс“ падае іх вельмі многа...

На асаблівую ўвагу заслугуе факт, што студэнцкая моладзь пачынае брацца за работу і ладзіць публічныя лекцыі чыста-культурна-узгадаваўчага характару. Характэрна і тое, што вёска, ня гледзячы на адарваньне яе ад натуральных павадыроў яе, усьцяж выяўляе сваю жыцьцёвую сілу і волю працаваць над паднятцем свайго культурнага роўня.

„Летапіс“ зьмяшчае і літэратурны матэрыял, а такжа характэрныя мэлёдыі народных песьняў.

Выхад органу ТБШ і тая праца, якую вядзе газэта Т-ва, толькі відавочна сьцьвярджаюць неаднакротна выказываную намі думку, што ў гэты мамэнт усе беларускія актыўныя сілы мусяць быць кінены на культурны фронт.

**Адкрытае пісьмо моладзі.** У сувязі з няспыняючайся вайной у Кітаі і Паўдзённай Амэрыцы, а такжа з ваеннай пагрозай з боку гітлераўскае Нямеччыны для Эўропы — паступовая моладзь Вільні (у тым — прадстаўнікі Беларускага Студэнцкага Саюзу) выпусьціла пратэстацыйнае „адкрытае пісьмо“ да „працоўнае моладзі паўночна-ўсходніх зямель“.

Водрух моладзі — вельмі шляхотны. Вось толькі дзіўна выглядаюць беларускія падпісы пад гэтымі „паўночна-усходнімі землямі“. Няўжож наша Заходняя Беларусь і ў вачох беларускага студэнцтва, згуртаванага ў Беларускім Студэнцкім Саюзе, страціла

# ЯДВІГІН Ш.

**(Антон Лявіцкі).**

*Жыцьцё і літэратурная творчасьць.*

(Працяг).

Ужо ў „Жывым нябожчыку“ мы бачым **камічны** элемэнт. Гэты элемэнт зьяўляецца лейт-мотывэм цэлага раду твораў Ядв. Ш. Аднак ён **не адзіны, ня істотны ў творчасьці Ядв. Ш.** Камізм твораў, як „Пазыка“, „З маленькім білецікам“, „Заморскі зьвер“, „Вучоны бык“, „Баба“ — **тыповы**. На сцэну выходзіць галоўны актар, селянін; ён найчасьцей наіўны, дзякуючы чаму трапляе ў сьмешныя сытуацыі. Гэта й выклікае сьмех. Псыхолёгія камізму ў гэтых творах палягае на тым, што ў галоўнай дзеючай асобы выкрываецца, дзякуючы штучкам іншых асоб, слабасьць, і гэтая слабасьць і зьяўляецца пружынай сьмеху. Возьмем для прыкладу абы-якое камічнае апавяданьне. Селянін трапляе ў места. Тут ён спатыкае на мосьце двух хлапцоў, якія б'юцца. Дабрадушны селянін хоча іх разбараніць і даведываецца, што прычынай сваркі зьяўляецца ён сам Гэта яго, зразумела, цешыць. Адзін хлапец кажа, што ў яго на назе — пяць пальцаў, а другі — шэсьць. Наіўны селянін зьнімае пазычаныя боты, каб высьвяціць справу. Хлопцы з ботамі зьнікаюць.

Дабрадушныя і цёмныя сяляне, якія зьяўляюцца галоўнымі дзеючымі асобамі ў гэтага роду творах, у другім выпадку падаюць ахвярай мястовага прайдзісьвета. Яны хочуць пабачыць заморскіх зьвяроў, а ён ім паказвае нейкага чыноўніка. Сяляне паказаны настолькі наіўнымі, што не адрозьніваюць гэтага чыноўніка ад малпы *). За жарты над гэтым „заморскім зьверам“ ім, зразумела, прыходзіцца блага. Гэта адна група твораў гумарыстычнага характару. Аднак, у іх бачым ня толькі камічны элемэнт. Есьць у іх і соцыяльны, і бытавы, і псыхолёгічны элемэнты; яны, праўда, слабыя, мала відомыя, але яны якраз разаўюц-

*) Гэтае апавяд. датычыць запраўды фэномэнальна брыдкага чалавека — пана Ошторпа, жыўшага ў Менску.

ўжо свой нацыянальны воблік? — Сумнае гэта зьявішча: яно паказывае, што беларускі дух у БСС ад часу расколу ў ім, выклікана хадэкамі, усьцяж занепадае.

**Беларускі Студэнцкі Саюз,** які дагэтуль туляўся па чужых кутох (пры хадэцкіх установах), здабыў сабе ўрэшце ўласнае памяшчэньне (Боніфратэрская вул. 2, кв. 3). Можа гэта дапаможа Саюзу выйсьці на належны шлях позытыўнае творчае працы і канчаткова ўнезалежніцца ад уплываў хадэцкіх „апякуноў", каторыя ў апошнія гады давялі да ўнутранае калатні сярод студэнцкае моладзі і ледзь не загубілі Саюзу зусім.

**Да справы байкоту кс. Станкевіча.** Як мы даведаліся ад асобы, каторай кс. А. Станкевіч паказываў прысланую яму Пэдагогічнай Радай гімназіі копію пастановы аб абвяшчэньні яму таварыскага байкоту, — у прыняцьці гэтае пастановы прынялі ўчасьце ўсе вучыцялі-беларусы: Р. Астроўскі, сьвяшч. Н. Кульчыцкі, Алёна Сакалова-Лекант, Мікалай Ільяшэвіч, Вінцук Грышкевіч, Язэп Шнаркевіч, Сымон Кароль, А. Міхалевіч, Пётра Шчасны, Барыс Кіта, С. Кінах, А. Цыбрук— разам 12 асоб. З імі соолідарызаваліся і 4 палякі, якія выкладаюць у гімназіі, глыбака абураныя „нетаварыскім і неэтычным паступкам" чалавека, які йшчэ пару дзён перад тым так соладка гутарыў з калегамі, каторых цяпер у сваей „Крыніцы" беспадстаўна абліваe гразёй.

## У Латвіі.

**Першы выпуск матурыстаў з Беларускай Прыватнай Вячэрняй Гімназіі ў Рызе адбыўся сёлета.** Матурысты 19-га чэрвеня зладзілі ўрачысты акт-разьвітаньне з сваей школай.

Такі-ж акт меў адбыцца гэтымі днямі і ў Беларускай Дзяржаўнай Гімназіі ў Дзьвінску.

Маладому пакаленьню нарастаючае беларускае інтэлігенцыі ў Латвіі шлем свае шчырае вітаньне.

## У Чэхаславаччыне.

**Аб правы беларускага сьцягу.** У красавіку і траўні месяцах адбывалася ў Празе выстаўка славянскіх ілюстраваных часопісаў, у якой прыймалі ўчасьце, ведама-ж, беларусы й украінцы. Выстаўку гэту ладзіла арганізацыя славянскіх жанчын, у якой пераважаюць жанчыны—москвофілкі („крамаржаўскага" кірунку), якія варожа адносяцца да беларускіх і украінскіх адраджэнска-вызвольных імкненьняў. На выстаўцы, перад яе адкрыцьцём, былі вывешаны сьцягі прымаўшых учасьце ў выстаўцы народаў, апрача... беларускага і украінскага! На пратэст прадстаўнікоў украінцаў арганізатаркі адказалі, што яны „ня ведаюць", якія сьцягі маюць беларусы й украінцы, дык калі апошнія хочуць, то могуць самі пашыць сьцягі і прынесьці.

Хаця часу на гэта было ўжо вельмі мала, аднак, украінцы гатовы былі гэта зрабіць. Аднак, тут умяшаўся ў справу прысутны пры гэтай заправўды няпрыстойнай гісторыі чэскі прафэсар д-р Ян Славік, які, выказаўшы сваё абурэньне з прычыны паступку москвофільскае жаночае арганізацыі, заявіў, што ён сам сваім коштам пашые беларускі ды украінскі сьцягі і вывесіць іх на выстаўцы, як дар. Гэтак і сталася.

Вестку гэту мы знайшлі ў апошнім нумары выдаванага ў Парыжу украінскага часопісу „Трызуб" і вельмі дзівімся, што наша беларуская колёнія ў Чэхаславаччыне, шлю-

---

ца ў сур'ёзных творах Ядв. Ш. Галоўнай рысай твораў гэтае групы ёсьць проціст аўленьне дабрадушных, простых людзей вёскі—людзям места, сапсутым, з надламанай псыхікай. Гэты матыў, характэрны нагул для нашаніўцаў, ёсьць і ў сур'ёзных творах Ядв. Ш. (напр. „Цырк").

Другую групу камічных апавяданьняў складаюць апавяданьні, у якіх камізм не вынікае з сытуацыі, але з тыпу, з жыцьця, з глыбейшых слаёў. Гэткія ёсьць: „Важная фіга", „Суд", „Жывы нябожчык", „Што сказаў певень", а таксама „Чалавек" і Хлеб", у якіх знайшла выражэньне народная мудрасьць. У гэтых апавяданьнях пераважаюць, побач з камічным, соцыяльны й псыхолёгічны матывы. У іх Ядв. Ш. адначасна і партрэтыст. Ен добры абсэрватар і ўмее вылавіць, ухапіць камізм у жыцьці.

Але камізм, які мае кроўныя сувязі з камізмам Чэхава, не зьяўляецца, як ужо сказана, адзіным і істотным матывам творчасьці Ядв. Ш.: у яго ёсьць і цэлы рад твораў сур'ёзных, глыбокіх па зьместу і мастацкіх па форме. У іх якраз Ядв. Ш., хоць праўда, не праяўляе асаблівага творчага размаху, але глыбака дыхае, як пісьменьнік.

Галоўныя матывы сур'ёзных твораў Ядв. Ш. — гэта псыхолёгічны й соцыяльна-бытавы. Гэтыя матывы, аднак, заўсёды зьмешаны і ня існуюць зусім асобна.

У апавяданьні „З бальнічнага жыцьця" паказана ўся „нялюдзкасьць" чалавека, які свайго-ж брата-чалавека трактуе мэханічна. На шпітальнай пасьцелі ў палаце № 17 канае „біты з маладецтва сірата, гаротны праз увесь век свой працаўнік"... Апавяданьне абвеяна настроем спачуцьця да гэтых шэрых, няпрыкметных людзей, і гэты настрой перадаецца мімаволі й чытачу. Ядв. Ш. — мастак у перадачы настрою. І тут ізноў бачым як-бы нешта супольнае ў чалавека й прыроды. У кружэньні лістоў і непагодзе ёсьць нешта супольнае з тым, што адбываецца ў бальніцы: „І ліплі крывава-жоўтыя лісты да тоўстых сьцен бальніцы, як-бы падслухаць хацелі, што чутно за імі"... У гэтым, як і ў іншых, апавяданьні Ядв. Ш.

чы розныя недарэчныя карэспандэнцыі з узаемнымі напасьцямі і закідамі сваім сябром, так мала ўцпіцца аб даваньні да краю інфармацыяў аб заправўды важных здарэньнях з беларускага жыцьця заграніцай.

# Палітычная хроніка.

**Новая умова паміж Польшчай і СССР.** Гэтымі днямі падпісана ў Варшаве новая конвэнцыя (умова) паміж Польшчай і СССР у справе сплаву дрэўных матэрыялаў па гранічных рэках.

**Фонд працы.** Нова-закладзены польскім урадам „Фонд Працы" мае мець бюджэт у ліку 100 мільёнаў злотых. З гэтае сумы — паводле толькі што зацьверджанага пляну работ фонду на бягучы год — 35 міл. назначаны на надзвычайную дапамогу безработным, 50 міл.—на выкананьне галоўнае задачы Фонду: на фінансаваньне публічных работ, арганізаваных дзеля барацьбы з безрабоцьцем, 5 міл. назначаны на будаўніцтва. Рэшта — 10 міл. — яшчэ ня мае азначанага ўжытку.

Больш як на 20 міл. зл. ужо падпісана ўмова на распачацьце работаў дзеля паляпшэньня грунтаў (меліорацыю), шляхоў рознага роду і д. т. п. Ня можам не адзначыць тутака, што з гэтых блізу 21 міл., ужо асыгнаваных на гэтыя работы, на нашы беларускія ваяводзтвы прыйшлося неяк няшмат...—Калі яшчэ на Беластоцкае в. дадзена паўмільёну, на Віленскае — 300.000 і на Палескае—350.000, дык Навагрудзкаму дасталося толькі 70.000 зл. Работы маюць распачацца ўжо ў бягучым месяцы.

**Польскія людоўцы лявеюць.** Як даносіць польская прэса, пастановы нядаўна адбыўшагася зьезду Польскай Партыі Людовай сьведчаць аб „яўнай і рэзкай радыкалізацыі" гэтай партыі, прадстаўляючай польскае сялянства. Прыкладам — партыя пастанавіла ўпісаць у сваю праграму дамаганьне: „безадкладны пераход на ўласнасьць дзяржавы—бяз усякага адшкадаваньня—вялікіх маёнткаў (абшарніцкіх), асабліва залягаючых з оплатай падаткаў і даўгоў у дзяржаўных банках, а так сама — тых маёнткаў, якіх уласьнікі свае даходы з іх хаваюць заграніцай".

**Сялянскія разрухі.** Пад уплывам камуністычнае агітацыі ўзьняліся разрухі сярод польскіх сялян у сумежных паветах кракаўскага і львоўскага ваяводзтваў. Сяляне пачалі рубаць панскія лясы і г. д. Пры ліквідацыі разрухаў паліцыяй палілася кроў. Есьць ахвяры з абодвух бакоў.

**Новая чыгунка Камень Кашырскі—Ваўкавыск.** Апрацаваны пару гадоў таму праект будаваньня новае чыгункавае лініі Камень-Кашыркі—Ваўкавыск, але адложаны тады дзеля нястачы грошаў, цяпер, як пішуць газэты, ізноў стаў на чаргу дня — у сувязі з праектам асушэньня Палесься. Апрацаваны ўжо плян гэты мае ў бліжэйшым часе быць зацьверджаны да выкананьня.

Такім чынам наш край атрымае новы, важны і выгадны шлях, лучачы яго з шырэйшым сьветам, што прычыніцца, безумоўна, да яго гаспадарчага ажыўленьня.

**З украінскага жыцьця.** 28 траўня адбылася ў Львове ўрачыстасьць адкрыцьця намагільнага памятніка найвялікшаму пісьменьніку Заходняе Украіны Івану Франко — у 17 ўгодкі яго сьмерці. Іван Франко лічыцца творцам адраджэньня ўкраінскага народу, а так сама закладчыкам соцыялістычнае арганізацыі сярод масаў украінскага сельскага і мястовага пролетарыяту. Напярэдадні ад-

---

шмат глыбокага лірызму, які дзеець на пачуцьцё чытача.

Падобны псыхолёгічны матыў знаходзім і ў апавяданьнях „Цырк" і „Шчасьлівая". У „Цырку" маем ізноў падкрэсьленае процістаўленьне гораду вёсцы. Андрэй Зорка, пабыўшы ў цырку, пабачыўшы там зьдзекаваньне над зьвярыма, ня можа гэтага зразумець і сьніць цяжкі сон: „перад вачыма Андрэя гараць агні. У вушах грыміць музыка, б'юць у бубны"... „А бізуны сьвісьцяць і ляскаюць... „Зьдзек" крычыць Андрэй з вышак, дзе ён сядзіць у цырку... „Зьдзек",—як адзін голас, адзываецца, ускаківаючы з кален, жывая грамада. Бізуны хутка падымаюцца ў гару, але дзіва: ня сьвіснулі, ня ляснулі яны, **а быццам завесіліся ў гарэ, а пасьля схіснуліся і... счэзьлі**". Гэта — сон. Ен выяўляе найлепш псыхолёгію Андрэя Зоркі. Ен абураны, што людзі не пратэстуюць, і вось у сьне **гэтае жаданьне зьдзейсьняецца**. Маем тут паказаны і ўплыў места на вяскоўца Міхалку Гурчына, якога мучыць „нуда па сваіх". Гэтых тыпаў з'урбанізаваных у першай ступені вывхаджэнцаў вёскі ёсьць у Ядв. Ш. некалькі. Яны цікаўныя і з соцыёлёгічнага, і з псыхолёгічнага бакоў.

Найлепш можа намаляваны псыхічны тып Юрчыхі ў апавяданьні „Шчасьлівая". Гэты тып агульна-людзкі. Гэта скупая баба, якая „не жалела.. двузлоткі на знахара, каб разбагацець, але пяпер хоць-бы і сабе—нізашто ня згодзілася-б надпачаць скарбу". А скарб гэты—гаршчок з гузікамі й паперкамі газэцін. Сюжэт гэты стары. Спатыкаецца ён у розных варыянтах у-ва ўсіх літэратурах.

**Ядв. Ш. мае асаблівы прыём малкаваньня псыхічных постацяў.** Ен не ўдаецца ў дробязі (да гэтага змушае яго форма апавяданьня), а накідае галоўныя штрыхі. Такім чынам—атрымліваем тып, які месьціць самыя характэрныя рысы. Прытым, як кажа М. Пятуховіч, „ён ня рысуе нам голай псыхікі ў якой небудзь безпаветравай прасторы, і заўжды ім тыя ці іншыя рухі душы выяўляюцца на аднаведным соцыяльна-эканаміч-

крыцьця памятніка адбылася ўрачыстая акадэмія ў Навуковым Т-ве імя Шэвчэнкі — у прысутнасьці прадстаўнікоў навукі і украінскіх асьветных установаў. Праф. Сьвенціцкі прачытаў даклад аб значэньні Франко ў гісторыі украінск. філёлёгіі. Увечары наладжаны быў канцэрт, на якім былі выканаоы музыкальныя творы на словы слаўнага ўкраінскага поэты.

На сьвята зьехалася шмат дэлегатаў з усіх куткоў Заходняе Украіны. („Вперед").

**Новы ўрад у Гданску.** Новы сэнат (урад) у Гданску створаны—у выніку перамогі гітлераўцаў на апошніх выбарах—у такім складзе: з 12 сэнатараў (міністраў) прэзыдэнт (прэм'ер) і 7 сяброў гітлераўцы, 2 цэнтроўцы, адзін фаховец (мін. фінансаў) і 1—былы нацыяналіст, які пакінуў партыю. Ясна з гэтага складу, што гітлераўцы будуць цалком кіраваць палітыкай ураду.

**Праграма Гітлера ў 5 пунктах.** Гітлер уляжыў усю сваю праграму ў 5 кароткіх, але, трэба прызнаць, выразных пунктах. Вось яны:

„1. Усе партыі, апроч нашае, будуць зачыненя, дый ня толькі марксаўскія, але і буржуазныя;

„2. Усялякая міжнародавая лучнасьць краёвых арганізацыяў будзе ў Нямеччыне скасавана ў карані, бо-ж толькі дзяржава мае прывілей рэпрэзэнтацыі ўва ўсіх галінах жыцьця народу на міжнародавым груньце (гэты пункт забараняе ўсялякую лучнасьць нямецкіх работнікаў, жыдоў і масонаў з замежнымі арганізацыямі).

„3. Скасаваны будуць усялякія рожніцы паміж грамадзянамі Нямеччыны — становыя, клясавыя і вызнанёвыя.

„4. Скасавана будзе капіталістычная сыстэма гаспадаркі.

„5. Скасавана будзе і сыстэма парляментарнай дэмакратыі".

**Сусьветная гаспадарчая канфэрэнцыя ў Лёндане.** 12 чэрвеня адчынілася ў Лёндане міжнародавая гаспадарчая канфэрэнцыя, на якую зьехаліся дэлегаты блізу з усяго сьвету. Канфэрэнцыя мае апрацаваць спосабы барацьбы з нячуваным гаспадарчым крызісам. Але пакуль-што праца канфэрэнцыі йдзе вельмі цяжка. Аднэй з першых задачаў канфэрэнцыі ёсьць усталеньне валютаў, а якраз у сучасны мамэнт ідзе нябывала зацятая барацьба паміж амэрыканскім далярам і англійскім фунтам. Амэрыка, якая думае зьніжэньнем сваей валюты падняць цэны на тавары ў краі, а так сама лягчэй канкураваць на замежных рынках, усьцяж выкручываецца ад так-зван. „стабілізацыі" даляра, а тым самым прыпыняе працу канфэрэнцыі. Пакуль ня будуць усталены адносіны паміж трыма галоўнымі валютамі сучасных фінансавых дыктатараў сьвету: далярам, фунтам і франкам, праца канфэрэнцыі не пасунецца наперад.

**Сэнсацыйны мэморыял Гугенбэрга.** Міністар нацыянальнай гаспадаркі (4 міністэрстваў) Нямеччыны Гугенбэрг (нацыяналіст) прачытаў на канфэрэнцыі мэморыял, у якім выляжыў трэбаваньні і прапазыцыі нямецкае дэлегацыі. Гэты мэморыял выклікаў на канфэрэнцыі ўражэньне выбуху бомбы: ён трэбуе ня толькі звароту Нямеччыне адабраных у яе колёніяў, але і „ухіленьня палітычных перашкодаў" Нямеччыне ў яе... „гаспадарчай колёнізацыі" на Усходзе, гэта значыць — у Польшчы, Балтыцкіх дзяржавах і СССР...

Навет найбольш германафільскія англійскія газэты называюць гэты мэморыял Гугенбэрга „брэдам хворага розумам", а яго аўтара—„старым аслом"...

---

ным груньце"...

У апавяданьні „Гаротная" бачым жудасны абраз цемнаты сялян. Тамашыха лечыць хворага сына ўсялякімі зёлкамі. І ён, абкураны дымам гэтых зёлак, пазбаўлены доступу сьвежага паветра, памірае. Бедната страшэнная пануе ў сям'і. Гэтая беднасьць даводзіць урэшце ўсіх да сухотаў. Памірае вось цяпер апошні яе сын — Сьцёпачка. Колькі ласкі ў Тамашыхі, колькі жалю ў яе! Яе перажываньні й увесь настрой апавяданьня ствараюць цяжкі, удушлівы настрой і ў чытача. Здаецца, аж галава кружыцца.

Апаваданьні „Зарабляюць" і „Зарабіў" — крэўныя „Гаротнай". У іх паказана, як і ў „Гаротнай", тая жудасная беднасьць, якая прыводзіць людзей на дно фізычнага й духовага ўпадку.

Сьцёпка Тацюк напэўна добры чалавек. Толькі можа няўдачы ў жыцьці, беднасьць вытварылі ў ім апатыю й гультайства. І гэтае гультайства пхае яго на брудную работу. Яго жыцьцё ўжо зламана. Ужо ён—жывы труп.

Тая-ж духовая сьмерць пагражае Ганульцы й Адаму ў „Зарабляюць". Маладая дзеўчына ізноў-жа праз беднасьць змушана пайсьці на шлях прастытуцыі. Беднасьць, гэты вынік соцыяльнае няроўнасьці людзей, псуе людзей, робіць з іх часта соцыяльныя адпады. Гэтыя два анёльчыкі — Ганулька й Адам—цяпер чуюць, як коўзка ісьці па жыцьцёвых сьцежках. Яны можа яшчэ вырвуцца з гэтага пекла. Малы Адам чуе, што тут крыўдзяць іх, што тут яны гінуць. „Мая служба вельмі цяжкая, — найгорш, калі Ганулька — мая родная, каханая сястрычка, седзючы пры адным стале з панамі,—крыкне: „Адам!—яшчэ бутэльку віна"! — Ляту, нясу, адпячатываю, неяк ногі і рукі мае трасуцца, і мест у шклянкі лію віно на белы чысты абрус, бо не на віно гляджу: гляджу, як зачараваны, у сінія, сінія вочкі сваей Ганулькі, і хочацца мне крыкнуць на ўвесь гэты рэстаран, не — не рэстаран, а крыкнуць так, каб увесь сьвет пачуў: „кідай, сястра, безработную службу! кідай, дарагая мая!"

Сам Гітлер, азнаёміўшыся з галасамі прэсы, загадаў нямецкай дэлегацыі ўзяць яго назад, а Гугенбэргу загадаў... вярнуцца назад у Бэрлін.

**Водгукі мэморыялу Гугенбэрга.** Савецкі дэлегат Літвінаў, выслухаўшы даклад Гугенбэрга, заявіў, што змучаная павэжнай і цяжкай працай канфэрэнцыі добра пабавілася дый адпачыла на вясёлым фарсе, наладжаным для яе Гугенбэргам. За гэта, прызнамося, можна яму падзякаваць. Але трэба ведаць, што Гугенбэрг валіў, як з мосту, усё тое, аб чым лятуцяць найбліжэйшыя да Гітлера таварышы яго працы і дарадцы яго палітыкі, як Розэнбэрг і інш.

**Барацьба Аўстрыі з Нямеччынай.** Найлепшым доказам дурноты і шкоднасьці для Нямеччыны яе новага „нацыянал-соцыялістычнага" ўраду Гітлера зьяўляецца катастрафічнае папсаваньне адносінаў паміж ёй і Аўстрыяй. Яшчэ нядаўна—у часы Штрэзэмана і Брюнінга — блізу ўсе аўстрыяцкія партыі, яўна ці скрыта, імкнуліся да злучэньня Аўстрыі з Нямеччынай у адну дзяржаву. Цяпер, у выніку запаленай гітлераўцамі запраўднай хатняй вайны ў Аўстрыі — з тасаваньнем шалёнага тэрору, на чаргу дня пастаўлены амаль не разрыў дыплёматычных зносінаў пініж абедзьвюма нямецкімі дзяржавамі. Але гітлераўцы ў Аўстрыі, ня гледзячы ні на што, робяць сваё: забіваюць людзей з іншых партыяў, узрываюць бомбамі установы апошніх, паляць урадавыя гмахі і т. д. дый толькі ўсім гэтым забіваюць справу нямецкага народу ў сьвеце. Аўстрыяцкі ўрад абвясьціў у межах Аўстрыі гітлераўскую партыю забароненай.

## Чытайце і пашырайце нашу газэту.

# Гаспадарчы аддзел.

### Барацьба з капуснымі шкоднікамі.

Найболей нашыя капусьцяныя варывы церпяць ад капуснай гусьвіцы і тлі.

Для змаганьня з капуснай гусьвіцай можна з пасьпехам выкарыстаць вельмі просты сродак, які патрапіць прыгатаваць кожны гаспадар. — На 100 частак (вагі) вады даецца 3 часткі звычайнай кухоннай солі і 2 часткі вапны. Гэтай мешанінай і апырскваецца капуста ўвечары. Калі гусьвіцы яшчэ маладыя, дык апырскваць трэ вечароў два падрад, інакш прыходзіцца больш, але трэба ўважаць на тое, што можна тагды зашкодзіць і самой расьліне.

На тлю прыгатаўляецца гэткая рашчына: На 1000 частак вады бярэцца 50 частак зялёнага мыла і 30 частак тытунёвага пылу. Гэтай мешанінай апырскваюць ісподвія і нападзеныя часткі лісьцяў. На другі дзень расьліны апырскваюцца чыстаю вадою, каб змыць згінуўшых паразытаў. **А. С.**

**Рыначныя цэны ў Вільні.** 23.VI. Яйкі I сорт капа 3 зл. 60 гр., II сорт капа 3 зл. 30 гр. Масла I сорт кілягр. 2 зл. 20 грош. гуртом, 2 зл. 40 гр. дэт. II-го сорта 2 зл. гурт. 2 зл. 20 грош. дэт. Малако 15 гр. літр. Сьмятана літр 1 зл. Сала сьвежае 1 зл. 70 гр. — 1 зл. 90 гр. Жыта кілягр. 21 гр. гурт. Авёс— кілягр. 13 — 14 гр. гурт. Ячмень кілягр. 20 грош. гурт.

## Паштовая скрынка.

**Гр. Яз. Варонцы ў Чыкаго.** Вашу адкрытку атрымалі. Высылаем вам №№ 4—14 часопісу. „Гадавік Белар. Навук. Т-ва" каштуе разам з перасылкай заграніцу 9 зл. 80 гр. Калі ў Чыкаго ёсьць аддзел Польскай Касы Ошчэндносьці (П. К. О.), дык можаце танна перавесьці грошы — на № 61,991 (Кнігарня Беларуская Манкевіча ў Вільні)—з указаньнем: на Гадавік Б. Н. Т-ва.

Ня можам устрымацца, каб ня кінуць вам, як старому заслужанаму беларускаму дзеячу, думку: ці ня варта было-б вам крыху папрацаваць, каб пашырыць наш часопіс сярод шматлікіх беларусоў у Амэрыцы, якія пэўне-ж не забыліся аб Бацькаўшчыне ды ня выракліся роднае мовы. Часопіс нашы бедны, слаба стаіць на нагах, дык падтрыманьне падпіскай з боку нашых заакеанскіх братоў было-б для нас ня толькі вялікай моральнай, але й матэрыяльнай падпорай. Можа-б што й напісалі нам самі—артыкулік ці там карэспандэнцыю якую. Навакол часопісу нашага гуртуецца шмат хто з вашых даўнейшых таварышоў па працы ў Радзе Менскай Рэспублікі. Чакаем. Бывайце здаровы.

**Гр. Попку Ягору.** Ваш ліст атрымалі. Вельмі цешымся. Адказ аб кнігах атрымаеце ад кнігара гр. Манкевіча, б. кіраўніка белар. пачатковай школы.

**Гр. Пятроўскаму у Дзярэчыне.** На вашае пісьмо адказалі вам пісьмом. Пастарайцеся высьветліць дакладна справу на мейсцы, бо ў нас усё ў парадку. З сабатаваньнем дастаўкі газэты на мясцох распачынаем рашучую барацьбу ўсімі законнымі спосабамі.

**Гр. В. Ш. у Бакунох.** Ліст вашы атрымалі. Газэта высылаецца вам акуратна. Дасьлядзіце на пошце і ў гміне, дзе яна гіндый паведамеце нас. Неатрыманыя №№ высылаем паўторна. Шлеце падпіску дый пашырайце газэту.

Атрыманы грошы на падпіску ад гр. гр. **В. Шабуні**—2 зл., **Сечкі** — 1 зл., **Мацея Самковіча**—1 зл.

## Перачытаўшы газэту — перадай другому.

# ЛІТЭРАТУРНЫ КУТОК.

*Мікола Засім.*

Песьнямі поле заліта:
Жнеі пад сонцам пяюць.
Што ж, цётка, ты сумам спавіта
І з воч тваіх сьлёзы плывуць?
Глядзі! Выццам бор тваё жыта—
Нажнеш ў гэтым годзе шмат коп.
Чаго-ж твой пагляд так прыбіты
І не велічавы твой сноп?
— Дзіця ты маё дарагое,
Нічога ня міла ўжо мне.
Дзяцей маіх—красачак двое—
Забралі ў турму ад мяне.

3. VIII. 1930.

———

*Міхась Машара.*

Адзін я — з тых першых
Устаўшых вяскоўцаў —
Прачнуўся і вершам
Спаткаць хачу сонца.
Над соннай краінай
Сьвітаньня мы — варта.
Наш сьпеў не загіне:
Мы звонкі і ўпарты.
Мы — будзім... і — ўзбудзім!
Паўстануць другія
На зьмену нам людзі
І людзі жывыя...
Ляці-ж, наша песьня,
Ад вёскі да вёскі!
Будзь гулкай бяз конца!
Мы — толькі прадвесьне,
Мы — першыя коскі —
За намі — там—сонца!..

———

*Гарасім Прамень.*

КАВАЛЬ.

Звон і стукат раздаецца,
Лятуць іскры, валіць дым,
Як пад песьню размахнецца
Каваль молатам сваім.
Гэй, каваль!— хлапец вясёлы,
Што куеш ты? плуг, ці колы?
Ці мо' робіш серп зубчаты,
Што заказвалі дзяўчаты?
— Не, сялянін мой пахілы,
Памыліўся, браце мілы...
Ці-ж ня бачыш па разьмеру?
Гэта-ж я раблю сякеру!
Як зраблю яе стальную,
У рукі моцныя вазьму я
І пайду у цемры гушчы
Шлях там новы высякаць —
Беларускаму Народу
Шчасьце й волю здабываць.

Дарагія Сябры!

У апошнім нумары „Шляху Моладзі“ паявілася заценка аб нашым „Кутку“. Радзім усім вам яе прачытаць і прыслаць свае ўвагі. Мы яшчэ раз падкрэсьліваем, што „Куток“ наш зусім незалежны ад тых ці іншых палітычных кірункаў і мае на мэце выключна літэратурнае ўзгадаваньне. Аб мэтах „Кутка“ мы выразна напісалі пры яго адчыненьні, і калі нехта перакручывае словы, стараючыся шукаць усюды нейкай палітыкі, дык хай сабе... Мы ведаем, які наш „Куток“ быў-бы напрыклад у хадэцкай „Крыніцы“, дзе мы былі-б зусім узалежнены ад ідэолёгіі хадэцкае касты (прыклад „Студэнскай Трыбуны“). „Шлях Моладзі“ мае „Літэратурны Аддзел“, які што да выбару вершаў вымагае шмат засьцярог. Мы аднак вітаем кожнае пачынаньне ў літэратурнай працы і гатовы ўсім падаць руку, хто шчыра хоча працаваць на літэратурнай ніве. З часам, калі мы зьбярэм маладыя сілы, мы здолеем стварыць свой „Кут“ і разьвіць нашу літэратурную працу шырэй і глыбей. У літэратурнай працы не павінна быць па нашай думцы парахвіяльнага сьветапагляду.

Шырэй глядзець!

———

**Сябра Прамень!** Друкуем Ваш верш і зьвяртаем увагу на некаторыя пахібы. У ім ня ўсюды вытрыманы рытм, гэта значыць аднолькавае чарадаваньне націскаў. Прачытайце верш Машары ў „Кутку“ і вы заўважыце, як ён вытрыманы. Пад яго можна хадзіць роўна, або танцаваць. Спрабуйце затанцаваць пад свой верш, і танец ваш будзе няроўны. Зьвяртайце ўвагу на рытм у вершы. Больш чытайце поэзіі і іншых твораў. Можа Вам прыслаць якія-небудзь творы нашых лепшых поэтаў? У поэзіі апрача шчырасьці пачуцьця шмат значыць і праца, нудная, цяжкая. Вось як кажа аб гэтай працы наш поэт М. Багдановіч:

„Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеньнем...
Як ударыш ты ім, ён як звон зазьвініць,
Брызнуць сьлёзы з халодных каменьняў!..

Куйце і гартуйце!

## Бацькі!

## Навучайце дзяцей вашых чытаць і пісаць пабеларуску!

Рэдактар: М. СІНЯУСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22